# Вопіс фондаў
архіву
# Віленскага Беларускага Музэю
імя Івана Луцкевіча

ver 0.2
працоўная вэрсія



Вільня
Віленскі Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча
2023

# Зьмест



## Вопісы

# Нарыс фондаў архіву Віленскага Беларускага Музэю

Збор архіву пачаў складацца з пераезда Сяргея Вітушкі ў Вільню ў 1989 годзе праз зацікаўленасьць гісторыяй віленскіх беларусаў ды праз кантакты Сяргея Вітушкі й Людвікі Кардзіс са старэйшым іх пакаленьнем (да таго часу Вітушка судзейнічаў у суполцы »Талака«, якая была больш палітычным і фальклёрным рухам). Па сфэры інтарэсаў іх абодвох значную частку архіва складаюць матэрыялы (успаміны, фотаздымкі, дакуманты) датычныя гісторыі беларускай адукацыі, галоўным чынам, на Віленшчыне.

Пакаленьне, якое было ў міжваенныя часы дзейным сутворцам беларускае культуры ў Вільні, ў 1990–2000-ых пачало сыходзіць, часта ня маючы каму перадаць сваю спадчыну: Коўш, Анішчык, Тулейка.

Тое ж датычыцца й да эмігранцкай часткі фондаў, да людзей, якія пасьпелі выдаць у Вільні свае мэмуары, перад тым як памерці на чужыне: Шаўцоў, Кіт, Алехнік, Калубовіч.

Канцэпцыя Беларускага Музэю ўключала (і ўключае) захаваньне дакумантаў па гісторыі беларускае культуры Віленшчыны, таму цалкам натуральна асобныя архівы паступова скопліваліся ў хатнім зборы. Калі ў 2021 годзе Музэй атрымаў ад гарадзкога самакіраваньня памяшканьне на Віленскай 20, тады архівы былі перавезеныя туды й, нарэшце рэшт, пачаўся іх разбор і вопіс сіламі валянтэраў.

Папярэдні вопіс архіву Віленскага Беларускага Музэю мае мэтай даць вагульнае ўяўленьне аб зьмесьце, тэматыцы й памерах фондаў. Да поўнага апісаньня ўсіх дакумантаў пакуль вельмі далёка, але ж цяпер дакуманты згрупаваны па фондах, і гэтыя фонды больш-менш апісаныя, але ня кожны дакумант наасобак. Далей плянуецца паступнёва апісваць ка-

лекцыю за калекцыяй, дакумант за дакумантам, далучаць бібліяграфіі, адсутнасьць якіх пакуль даволі ўскладняе працу. Па стопнях ўдакладненьня вопісу будуць выкладзеныя новыя яго версіі і г. д.

Разам з разборам дакумантаў, частку зь іх мы скануем (або фатаграфуем) і выкладаем на нашую старонку на archive.org.

У параўнаньні з першай вэрсіяй вопісу дададзеныя: фонды Зоські Верас, Адольфа Клімовіча (уключае таксама матэрыялы Фабіяна Ярэміча), фотаальбомы сям'і Качынскіх, а таксама ўказьнік імёнаў ды нарыс калекцыяў ангельскай.

# I Асабістыя архівы

## Архіў Зоі Коўш (Каўшанкі)

Забраны пасьля яе сьмерці зь яе дому па адсутнасьці ў яе нашчадкаў, якія маглі бы паклапаціцца аб гэткай спадчыне. Дакуманты спакавалі Сяргей Шупа, Сяргей Вітушка, Кастусь Шышэя, Сымон і Лявон Каралі, аб чым быў складзены пратакол, імі падпісаны (уваходзіць у зьмест фонда, гл. стр. 24, 96). Збор быў прыняты Сяргеем Вітушкай ды Людвікай Кардзіс да Віленскага Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча.

Архіў складаецца з вялікае карэспандэнцыі Зоі Коўш, у тым ліку, яе лістоў да мужа — Аляксандра Кратовіча, сасланага ў Варкуту. Сюды жа належыць яе немалая калекцыя паштовак.

Зоя Коўш скончыла Віленскую беларускую гімназію, — аб якой пакінула мэмуары ў зьмесьце архіва, а потым юрыдычны факультэт Віленскага універсітэту (аб чым у архіве засталіся канспэкты лекцый і дыплём). Падчас нямецкай акупацыі працавала юрысконсультам Беларускага нацыянальнага



Малюнак кветкі й фота для дакумантаў Зоі Коўш

камітэта ў Вільні, аб якім так сама засталіся ў архіве рукапісы мэмуараў.

А 1947 Зоя Коўш была рэпрэсаваная, яе вышыванкі ссыльных часаў належаць да музэйнай калекцыі. Аб ссылцы захаваліся рукапісы мэмуара »Азія«. Па вяртаньні з лягеру Коўш жыла спродажам кветак, таму вялікую частку архіва складаюць яе запісы па кветкаводству й фінансавыя падлікі.

За вынікам гэтага архіў умяшчае колькасьць мэдычных папераў (ад рэцэптаў польскіх часаў да кардыяграмы) і безьліч інструкцыяў ад бытавых прыбораў (пыласмокаў і г. д.) 1960–1980 г.г., і яшчэ ветэрынарныя пасьведчаньні, паколькі спадарыня Зоя любіла й мела сабакаў.

Пасьля смерці Коўш была зладжана выстава у яе памяць — матэрыялы выставы таксама ўвайшлі ў архіў асобнай часткай.



Прыклад свойскай рэтушы з фотазбора Анішчыка

## Архіў Зоські Верас

Уключае пакуль толькі адзіны том са шматлікіх выданьняў самадруку, якія выдавала ды распаўсюджвала Верас. У збор »Біяграфіі« вайшлі здымкі й аўта- ды біяграфічныя матэрыялы аб беларускіх дзеячах Віленшчыны 1920–1970 гг.

Карэспандэнцыя Верас зьмяшчаецца ў архіве Аляксея Анішчыка (гл. стр. 36).[1]

## Архіў Аляксея Анішчыка

Перададзены пасьля яго сьмерці ўдавою Сяргею Вітушку й Людвіцы Кардзіс. Спачатку архіў Анішчыка выглядаў быццам найбуйнейшым, але пад час разбору выявілася, што ў значнай частцы ён складаецца з чужых папераў. Таму справы Янкі Багдановіча, Барыса Кіта, Паўла Карузы былі выдзеленыя ў асобныя калекцыі. Выпадковыя асобныя дакуманты, якія,

1 Адзіны ліст увайшоў ў выданьне: Верас, Зоська. Я помню ўсё: успаміны, лісты. /Уклаў Міхась Скобла. Гародня: Гарадзенская бібліятэка, 2013. Стр. 418.

як кажуць, паходзяць з макулатурнага калектара ў Грыгішках, так сама былі перанесеныя ў спэцыяльны фонд для гэткіх самотных дакумантаў.

З папераў самога Анішчыка засталося па разбору ня шмат: рэпрэзэнтатыўны збор біяграфічных дакумантаў ад часоў Другой Рэспублікі да пост-савецкае Літвы, шырокая — і пакуль ня цалкам разабраная — карэспандэнцыя, вялікі збор гістарычных фотаздымкаў і крыху (асабліва ў параўнаньні з тым, сколькі ён пасьпеў напісаць і выдаць) чарнавікоў мэмуарнай прозы, артыкулаў (часта пад псэўданімамі Чэмер і Сьцяпанаў) ды вершаў.

Аляксей Сьцяпанавіч Анішчык (1912–2007) скончыў Познанскі унівэрсітэт, пад час нямецкай акупацыі Польшчы выкладаў у беларускай школе ў Навагрудку, дырэктарам якой раней быў ягоны бацька, і аб якой потым Аляксей Анішчык зьбіраў матэрыялы (частка іх засталася ў архіве) й выдаў манаграфію.[2] А 1948 годзе ён быў арыштаваны й сасланы ў лягер, звольніўся ў 1962 і праз некаторы час перабраўся жыць у Літву. Большая частка яго запісаў й дакумантаў належыць да апошняга пэрыяду жыцьця, калі Анішчык, тады жыхар Вільні, актыўна далучыўся да беларускага грамадзкага руху: пісаў для беларускай газэтнай старонкі »Пагоня« й іншага беларускага друку, узначаліў Суполку віленскіх беларускіх палітвязьняў (дакуманты якой уваходзяць у ягоны архіў) і г. д.

Працягам усяго жыцьця Анішчык сабраў вялікую калекцыю фотаздымкаў па беларускай гісторыі, асобных дакумантаў. Здымкі з большага старальна пракамэнтаваныя (але часам ім жа расфарбаваныя таксама). Значная колькасьць здымкаў карысталася ў выставах аб Віленскай Беларускай Гімназіі і інш.

---

2 Чэмер, Андрэй. Навагрудская беларуская гімназія. Вільня, 1997. – 136 с.

Вядома, што значную частку свайго архіву Анішчык пасьпеў перадаць у Беларусь, хутчэй за ўсё, бібліятэку й рукапісы. Як кажуць, у тым быў задзейсьнены, маўляў, Пятро Краўчанка. Некаторую колькасьць кнігаў зь бібліятэкі Анішчыка ўдава падаравала Міхасю Скобле.

Да музэйнай часткі спадчыны Анішчыка належыць, між іншым, друкавальная машынка, магчыма, забраная ім у Адольфа Клімовіча.



Кветка з вастрожнага пераклада Шнаркевіча

## Архіў Тулейкі

Складаецца з фондаў чатырох асобаў:

- Надзеі Маркаўны Шнаркевіч, настаўніцы Віленскае Беларускае Гімназіі,
- Язэпа Канстанцінавіча Шнаркевіча, яе мужа й настаўніка тае жа гімназіі,
- Яна Адамавіча Тулейкі, вучня тае жа гімназіі, якога Шнаркевічы ўсынавілі,
- ды Янкі Багдановіча, вучня тае жа гімназіі й выхаванца Віленскага Беларускага Прытулку.

Паперы перададзеныя Людвіцы Кардзіс нявесткай Тулейкі.

Так сама ў архіў уваходзяць ананімныя гімназічныя канспэкты вучняў, па гісторыі, стылістыцы (самога Тулейкі), прасодыцы, сусьветнай літаратуры за 1930–1950 г. г. Сюды ж належаць і два вельмі цікавыя сшыткі з запісамі гімназісцкіх гульняў.

Разам з архівамі быў адданы й кніжны збор, пры чым на шматлікіх кніжках ёсьць гімназічная пячатка Тулейкі.

## Архіў Язэпа Шнаркевіча

Архіў Язэпа Шнаркевіча складаецца галоўным чынам с чорных тлустых сшыткаў з успамінамі, перапісанымі з друкаванай кніжкі беларускімі байкамі, перакладамі з Гогаля, Талстога і г. д., якія Шнаркевіч рабіў кожнадзённа, седзячы ў вастрозе на Лукішках у Вільні ў 1927–1928 гадах. Сшыткі аздоблены яго малюнкамі й сухімі кветкамі. Сама турэмная творчасьць была натхнёная Антонам Луцкевічам, які заклікаў арыштаваных беларускіх дзеячаў пісаць на Лукішках, кабы потым выдаць зборнікам. Сшыткі Шнаркевіча ў друк аднак не патрапілі й былі ім закапаныя пад фундамэнт свайго дому й знойдзеныя нашчадкамі пры рэмонтах падмурка значна пазжэй яго сьмерці.

## Архіў Надзеі Шнаркевіч

Да архіва самой Надзеі Шнаркевіч (у дзявоцтве Калядзянкі) належаць рукапісы яе артыкулаў па беларускаму фальклёру (вясельле й хрэсьціны; каляндарныя й сямейныя песьні; жаночае адзеньне Палесься), карэспандэнцыя, сувязаная з гісторыяй беларускай гімназіі ў Радашковічах й яе запісы па гісторыі гімназіі ў Радашковічах са слоў мужа Язэпа Шнаркевіча й іншых.




Малюнак *па квадратах* з вастрожнага сшытка Шнаркевіча

Судзячы па заўвагах Зоські Верас у біяграфіі Шнаркевіч, яе творы па фальклору ня патрапілі да друку (гл. стр. 7 ды 45). Матэрыялы аб гімназіях але ляглі ў васнову самаробных альбомаў, якія Шнаркевіч рабіла разам з Верас.[3]




Фальклёрныя зацемкі Надзеі Шнаркевіч: схема з подпісам *кучка дзяцей*, тэкст песьні *А на моры на Дунаі плыве човен маляваны*

Апрача таго, яна пакінула успаміны аб Таварыстве Бела-

3 Пра альбом аб Радашкаўскай гімназіі гл., нп., Верас, Зоська. Я помню ўсё: успаміны, лісты. /Уклаў Міхась Скобла. Гародня: Гарадзенская бібліятэка, 2013. Стр. 301.

рускае Школы ў Вільні (1924–1930) й ліст да »Літаратуры ды Мастацтва« аб апрэсіі беларускае мовы ў Беларускай ССР.

Да абодвох архіваў Шнаркевічаў належаць успаміны аб Несьвіжскай Беларускай Гімназіі, сьпярша запісаныя Язэпам, які быў там настаўнікам, а потым дапрацаваныя Надзеяй з даданьнем успамінаў іншых настаўнікаў ды вучняў.

## Архіў Янкі Багдановіча

Адносна невялікі архіў Багдановіча склаўся з асобных збораў Анішчыка й Тулейкі. Умяшчае успаміны Багдановіча, яго вершы (у тым ліку альбом, з любоўю складзены з вершаў і здымкаў), й крыху асобных дакумантаў (ганаровых грамат за настаўніцтва і д. г. п.). Частка архіва чакае перадачы музэю на антрэсолях у кагосьці з віленчукоў.



Лягерны здымак з альбома Багдановіча

## Архіў Антона Янкоўскага

Невялікі архіў фальклярыста Віленшчыны Янкоўскага атрыманы разам з паперамі Анішчыка. Тут рукапісы (як фальклё-

рныя, так і бытавыя) і самаробны альбом пра татарскае мястэчка Немеж (Niemież), падараваны Янкоўскім Анішчыку (як сьведчыць надпіс).

## Архіў Мікалая Ўлашчыка

Архіў гісторыка й этнографа ўтрымлівае машынапіс мэмуараў пра ссылку ў Сыбір. Лісты Ўлашчыка да Шнаркевіча належаць да фонду Шнаркевіча.

## Архіў Паўла Карузы

Зьмяшчае нотныя рукапісы, чарнавікі ўспамінаў пра фальклярыста Грыневіча й вялікі неразабраны збор карэспандэнцыі. Сюды жа належаць дакуманты аб рэабілітацыі Карузы.

## Архіў Адольфа Клімовіча

Архіў Клімовіча зьмяшчае нотныя запісы рэлігійнай музыкі часоў, калі Клімовіч працаваў арганістам і некаторыя асобныя дакуманты. Сюды ж належаць і фотаздымкі з пазнавальнай асобнай пячаткай Клімовіча (гл. стр. 101). Апрача таго, у ягоны фонд увайшлі асобныя дакуманты Фабіяна Ярэміча й яго блізкіх й так сама фотаздымак сям'і Юозаса Эйнорыса.

Судзячы па подпісах на фотах, збор паходзіць з калекцыі Анішчыка.

Клімовіч з Ярэмічам былі, верагодна, знаёмыя праз Беларускі інстытут гаспадаркі й культуры (апрача іх абодвух там працаваў таксама й Павал Каруза).




Маёнтак Ярэміча ў Чыгуначнай калёніі (Павільніс), дзе таксама жылі З. Верас з А. Войцікам.[4]

# II Фонды прэсы й суполак

## Архіў газэты »Наша Ніва«

Вялікі збор лістоў чытачоў і іншай карэспандэнцыі, працоўных матэрыялаў газэты (чарнавікоў, малюнкаў, фотаздымкаў), судовых і іншых дакумантаў добра прадстаўляе ўсю гісторыю й передгісторыю »Нашай Нівы« ад нараджэньня нацыянальнага беларускага руху ў Беларускай і Літоўскай ССР да канца папяровага выданьня »Нашай Нівы« (2016).

Сюды жа пакуль ўваходзяць матэрыялы газэты »Свабода«, й таксама багаты збор малатыражнага друку 1980–1990-ых г.г. беларускага нацыянальнага руху: брашуры, лістоўкі, квіткі, запрашэньні, каляндары, паштоўкі, рэдкія газэты.

Архіў быў перададзены былым галоўным рэдактарам »Нашай Нівы« Сяргеем Дубаўцом. Між іншым, значная частка чытацкай карэспандэнцыі адрасавана на хатні адрэс Людвікі Кардзіс, паколькі на яе была зарэгістравана з пачатку »Наша

4 Верас, З. Я помню ўсё: успаміны, лісты. Гародня, 2013. Стр. 73–76.

Ніва« — іншыя арганізатары выданьня яшчэ ня мелі віленскае прапіскі.



Матэрыялы Аблажэя да кнігі Шаўцова

## Архіў Алега Аблажэя

Невялікі пакуль архіў мастака Аблажэя зьмяшчае некалькі яго малюнкаў са збору Анішчыка й Вітушак. Ёсьць таксама тэчка яго рукапісаў з эсэямі для »Руні« й ілюстрацыі да кнігі Шаўцова (у фондзе апошняга). З працягам часу, калі будзе дэталёва разабраны архіў »Нашай Нівы«, дзе Аблажэй шмат супрацоўнічаў, ягоны архіў мусіць папоўніцца дадатковымі матэрыяламі.

## Архіў »Пагоні«

Да газэтных фондаў так сама належыць невялічкая, але цікавая дакумантацыя па выданьню беларускай старонкі »Пагоня« у літоўскай газэце »Lietuvos rytas«. Са збора Анішчыка тут захаваныя зацемкі й пляны старонкі, асобныя нумары й лісты чытачоў, якія горача рэагавалі на паўстаньне »Пагоні« і яе артыкулы.




Фрагмэнт накіду беларускай старонкі »Пагоня«

## Архіў »Руні«

Архіў сутнае віленскае газэты »Рунь« пакуль не існуе як асобная калекцыя, але разбор іншых фондаў крок за крокам прыносіць паперы й карэспандэнцыі датычныя »Руні«, таму працягам разбораў гэткі фонд паўстане. (Бібліятэка мае пераданую Алегам Мінкіным, рэдактарам »Руні«, яе падшыўку за 1997–2006 г.г. (№ 1–57).)

## Архіў сям'і Вітушак

Архіў складаецца з дакумантаў суполкі »Талака« – маладзёвага грамадзкага руху, які дзейнічаў у Менску й агулам Беларускай ССР ў 1985–1990 гадах, развойваючы адраджэньне фальклёру, антымілітарныя, экалягічныя ды анархісцкія акцыі. Сюды ўваходзяць чарнавікі, выпісы, здымкі, прэса й іншы малатыражны друк, самадрук, карэспандэнцыя і г.д.

Другая вялікая частка архіву Вітушак гэта дакуманты самога Віленскага Беларускага Музэю з моманту яго адраджэньня Вітушкай ды Кардзіс (1989 год): здымкі, матэрыялы



Сдымак Сяргея Вітушкі часаў »Талакі«

выставаў, ліставаньні, праекты, прэса аб музэі. Гэтая частка архіву працягвае расьці пакуль Музэй існуе, да яе дадаюцца матэрыялы новых выставаў і г.д.

Трэцяя частка збору: рукапісы мастацкае прозы Сяргея Вітушкі: баек, батлеек, артыкулаў.

Па памерах найвялічэйшыя зборы ўсяго архіву ВБМ ёсьць калекцыі Вітушак ды »Нашай Нівы«.

## Архіў Віленскае Беларускае Гімназіі

У асобны фонд выдзелены ўспаміны аб Віленскай Беларускай Гімназіі: тут месьцяцца лісты, рукапісы, друк, фотаздымкі. Частка ўспамінаў пісалася для »Летапіса ВБГ« (Таронта, 1983), іншая частка зьбіралася для сэрыі публікацый у »Руні« пры сьвяткаваньні 80 год заснаваньня Гімназіі. (Матэрыялы гэтыя, прынамсі часткова, зьбіраў і рэдагаваў Сяргей Вітушка). З гэтых запісаў плянавалася кніга, якая аднак ня выйшла, а частка напісанага зьявілася ў іншых пэрыёдыках (у прыватнасьці, у беластоцкай »Ніве«). Яшчэ частку складаюць пра-



Фота Надзеі Шнаркевіч з купэртай з-пад фотапаперы

мовы, не прызначаныя для друку, а толькі для моўленьня на імпрэзах самога сьвяткаваньня.

# III Калгасныя калекцыі

## Архіў Падбродзьдзя

Пераданая а 2022 годзе Алесем Марозікам Людвіцы Кардзіс для Музэя скрыня з паддашка хаты ў Падбродзьдзі, дзе новыя гаспадары пазбавіліся ад чужое спадчыны. Невялікі збор (захаваны ў скрынцы з-пад абутку Віцебскай абуткавай фабрыкі) умяшчае рэдкія й нявельмі дасяжныя дакуманты калгаснага жыцьця 1950-ых г. г. (табліцы надояў, пакосаў і д. г. п.), асобныя дакуманты, кранальныя нататкі мясцовай беларуска-польскай гаворкай памежжа, прыгожы малюнак з тытулам »Рака« й невялікі зьмест кніжак 1920–1950-ых. Ра-

зам са зборам было перададзена радзіва-прыёмнік »Заря« даволі уражальнага выгляду.




Школьны малюнак »Рака« з адзнакай 4 (добра)

## Архіў Даўжукоў

Падобны жа архіўчык калгасных дакумантаў, толькі 1970-ых гадоў, уяўляе сабой збор двох пакаленьняў сям'і Даўжукоў з беларускага калгаса на Маладзеччыне. Адкуль гэты збор паўстаў, ніхто пакуль ня памятае.

# IV Эміграцкія і кніжныя зборы

Тут захоўваюцца матэрыялы падрыхтоўкі выданьня мэмуараў. Сюды належаць архівы эмігрантаў Аўгена Калубовіча, Сымона Шаўцова (перададзеныя Алегам Мінкіным, яго выдаўцам), Сымона Шарэцкага, Марыяна Пецюкевіча, Міхася Белямука.

Адрозніваюцца ад іх па зьместу архівы двух яшчэ эмігрантаў: Алеся Алехніка, які складаецца са здымкаў, і Барыса Кі-




Антысэміцкая паштоўка з фанэры са збора Коўш

та, ў які вайшлі лісты, яго ўспаміны й матэрыялы дэдыкаваныя яму. Абодва архівы перадаў Алег Мінкін.

Не эміграцкі, але падобны да таго па зьместу фонд складаюць рукапісы Міраславы Русак па падрыхтоўцы яе кнігі »Лявонава доля« пра віленскага друкара Станіслава Станкевіча й макет кнігі Паўлы Ўрбан аб паходжаньні літоўцаў.

## V Друк і фотаархіў

Па-за пералічаным застаюццца буйныя па памерах часткі, якія былі большасьцю ахвяраваныя разам з дакумантамі (часам у колькасьцях значна большых), аднак патрабуюць апісаньня наасобак. Сюды належаць:

- калекцыі часопісаў і газэтаў з 1930-ых па 2010-ыя, ад »Шляху Моладзі« часоў Другой Рэспублікі й »Шляху« часоў другой нямецкай акупацыі да падшывак

»Руні« й »Нашай Нівы« працягам усяго іх існаваньня, з улікам кароткатэрміновай прэсы, самадруку й эмігранцкай пэрыёдыкі;

- кніжныя зборы рэдкага друку 1930-ых, перададзеныя разам з архівамі Тулейкі, Анішчыка й іншых, — як і пэрыёдыка, яны адыходзяць да бібліятэкі ВБМ, за вынікам асобых выпадкаў (калі кніга ўмяшчае сутныя заўвагі ўладара ці іншыя асабістыя рысы, або кніга належыць да збора аб выданьні);

- калекцыі фотаздымкаў, па памерах вялічэйшыя за папяровы архіў, але кабы апісаць і спарадкаваць іх, патрэбна значна больш часу;

- калекцыі паштовак, сярод якіх найбуйнейшыя належаць Зоі Коўш і Алене Тарас (перададзеныя разам з сямейнымі фотаальбомамі сям'і Качынскіх), але так сама й шмат іншых са збораў Вітушак, Анішчыка і іншых;

- калекцыі значкоў, мэдаляў, сьцяжкоў і г.д. (гл. прыклад на стр. 106).

- рэчы, перададзеныя з архівамі, кшталту друкмашынак Коўш й Анішчыка.

Апрача ўсяго гэтага таксама зборы перакапіяваных дакумантаў, артыкулаў і падобнае, што часам ужо не захоўвае ані паходжаньня, ані мэтаў паўстаньня й таму, мусі, з большага перайдзе да бібліятэкі й перапрацоўкі паперы.

# Вопіс

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|

## І. Архіў Зоі Коўш

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| Коўш, Зоя | Успаміны: Бел. Нац. Камітэт, Др. сусьв. вайна | маш. | | 4 арк (2 асоб.) | бел |
| Коўш, Зоя | ”Беларускі студэнцкі саюз” (успаміны) | маш. | | 11 арк | бел |
| Коўш, Зоя | Успаміны пра жыцьцё бел. інтэлігенцыі ў міжваеннай Вільні, Бел. нац. камітэт | рук | | 11 сш. | |
| Коўш, Зоя | Asia. Успаміны пра ссылку | рук | | 1 сш. | бел (кір) |
| Коўш, Зоя | Успаміны й публіцыстыка лацінкай | рук. | | 7 сш. | бел |
| Коўш, Зоя | Успаміны й публіцыстыка лацінкай (асобныя арк.) | рук. | | | бел |
| Коўш, Зоя | Сшытак з дзёньнікам (толькі 1 запіс), бытовыя запісы | рук | 1982 | 1 сш. | |
| Коўш, Зоя | Сшытак з чарнавікамі лістоў (між імі пра выкладчыка ВБГ хрысьціянскай маралі), запісамі пра кветкі ды быт. запісамі | рук | | 1 сш. | |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| Коўш, Зоя | Сшыткі з рэцэптамі. Сшытак з касмэтычнымі рэцэптамі | рук | | 4 сш. | |
| Коўш, Зоя | Сшыткі пра кветкі | рук | | 5 сш. | |
| Коўш, Зоя | Карэспандэнцыя: паштоўкі, лісты, капэрты | рук | 1939–94 | 3 скр. | бел, рас |
| Коўш, Зоя | Лісты да мужа (Кратовіча); ліст Коўш да невядомай асобы: “Дорогая Надя!” (лісты без капэртаў, паштоўка) | рук | 1961–69 | 60 асоб. | рас |
| Коўш, Зоя | Чужыя лісты да яе й яе мужа (лісты, капэрты, паштоўкі) | рук | | | бел, рас |
| Коўш, Зоя | Калекцыя пустых паштовак ды капэртаў | друк, фота | | | |
| Коўш, Зоя | Калекцыя старых паштовак разам з ліставаньнем і сямейнымі здымкамі | рук, фота | 1930–60 | 2 альб. | бел, рас, пол |
| Коўш, Зоя | Кансп. (юр. ф-т: Prawo handlowe, Prawo hipoteczne) | рук., друк | 1936–37 | 3 сш. | пол |
| Коўш, Зоя | Быт. дакуманты, бел. культура: праграмкі, анкеты ігд | друк, маш. | | 5 тэчак | рас, бел |
| Коўш, Зоя | Быт. дак. | рук, друк | | 1 тэчка | рас |
| Суровец, Елизавета Осиповна | Пасьведчаньне акушэркі маці Коўш; тут жа яе здымак | рук, фота | 1904-V-05, Гародня | 1 арк | рас |
| — | Інвэнтарны вопіс дома ды маёнтка з чарцяжом (узг. Коўш Элеанора) | рук, рыс | 1949 | 1 тэчка | літ, рас |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| — | Дак. аб прыёме спадчыны Зоі Коўш. Падпісалі: Вітушка, Сяргей; Шупа, Сяргей; Шышэя, Кастусь; Кароль, Сымон; Кароль, Лявон | маш. з рук. заўвагамі | 1994 | 1 арк | бел |
| Кардзіс, Людвіка | Мэню пахавінных абедаў, на гадавіны ігд. Тут жа сьмета на помнік кс. Альбіну Стэповічу | рук | 1994–95 | 19 арк | бел |
| — | Мат. выставы пра Коўш: чарнавікі, друк. ўспаміны "Кузьня бел. духу" (Вільня, 1995), рэпрадукцыі, паштоўкі, подпісы пад экспанатамі, нэкралёг, біяграфія | друк, рук, фота | | 1 тэчка | бел |
| Коўш, Зоя | Чыстая папера | — | 1940–80 | | |
| Кратовіч, Аляксандар | Дзёньнік | рук | 1970 і раней | 1 сш. | рас |

## 2. Архіў газэты "Наша Ніва"

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| — | Фота; чарнавікі й копіі артыкулаў | рук., друк, фота | | | бел |
| — | Рукапісы, выразкі з друк. нумароў | рук., друк, фота | | 12 тэчак | бел, рас |
| — | Карэспандэнцыя (рук. чытачоў), сьценгазэта | рук, маш. | | | бел, рас |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|

# 3. Архіў Паўла Карузы

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Каруза, Павал | Нотныя рук.; чарнавік манаграфіі; быт. запісы (хатняе ліставаньне з жонкай) | рук., маш. | | | |
| Каруза, Павал | “Нарыс Паўла Карузы пра Грыневіча фальклярыста” (чарнавік) | рук | | 33 арк | бел |
| — | Лісты да Паўла Карузы (са зб. Анішчыка) | рук | | 6 тэчак | |

# 4. Архіў Аляксея Анішчыка

## 4.1 Артыкулы

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Сьцяпанаў, Ал. (Анішчык) | “Жыве песьня і мова — жыве дзяржава!”, арт. | маш. (праз сіньку) | 2003-V-05, Вільня | 1 арк | бел |
| Чемер, Андрей (Анішчык) | “Радости двойного праздника. Возрождение национальной активности белорусов”, арт. пра фэстываль бел. песьні ў Кляйпэдзе | ? | | 3 арк | рас |
| Чэмер, Андрэй (Анішчык) | “Пасьпяховы дэбют”, артыкул пра фэстываль бел. песьні ў Кляйпэдзе | | 2001-X-10, Кляйпэда-Вільня | 6 арк. з дубл. | бел |
| Анішчык Аляксей | “Stosunki polsko-białoruski w okresie międzywojennym” | рук. | 1997, Вільня | 10 арк | пол |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| Анішчык Аляксей | “Хорошие люди есть всегда (Психо-неврологическая больница в Вильнюсе)”, узг. Валдас Банайціс | маш | б/д, Вільня | 15 арк з дубл. | рас |
| Анішчык Аляксей | “Аляксейчык Аляксандр — кароль псыхатэрапіі”, арт. (скончаньне) | копія з друку | 1994-XI-11, Вільня | 1 арк | бел |
| Анішчык Аляксей (?) | “Віленшчына”, арт. | маш. з праўкамі | | 29 арк (з дубл.) | бел |
| Чэмер, Андрэй (Анішчык) | “Залаты фонд нацыі”, арт. | маш. з праўкамі | | 5 арк | бел |
| Анішчык Аляксей | “Беларуская шляхта”, арт. | маш. аўт. | | 3 арк | бел |
| Анішчык Аляксей (?) | “З суквецьця нацыі”, арт. (фрагм.) | рук. (сш.) | | 6 арк | бел |
| Сьцяпанаў, Ал. (Анішчык) | “Талака-талака! роднай песьні плынь-рака!” | маш. | | 3 арк | бел |
| Чэмер, Андрэй (Анішчык) | “Гэта было ў Вільні... Ушанавалі памяць нац. героя”, арт. пра перазахаваньне Луцкевіча | маш. (сінька) | 1991-05, Вільня | 2 арк | бел |

## 4.2 Мэмуары

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Анішчык Аляксей | “Пазарасталі сьцежкі дарожкі”, успаміны | маш. (фрагм.) | | ∼250 арк | бел |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| Анішчык Аляксей | “Золото и петля (быль)”, аповесьць ці ўспамін аб 1940-ых гг. | маш. (фрагм.) | 1960-70ыя? | 3 арк | рас |
| Анішчык Аляксей | “Гэта была вясна 1957-га года, хварэла маці...”, адцінак, цытуецца ліст Б. Кіта | маш. з заўвагамі | | 6 арк | бел |
| Анішчык Аляксей | “Как я стал врагом народа”, успамін | маш. | | 2 арк | рас |
| Анішчык Аляксей | “Ад вясны да зімы на нарах з капітанам Сокалам Кутылоўскім”, успамін | маш. праз сіньку | | 9 арк (з дубл.) | бел |

## 4.3 Чарнавікі й фрагмэнты

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| — | “Закон і вакол закона” | рук | | 1 сш. | бел |
| — | “Радзяцца беларусы Віленшчыны” | рук | | 2 арк | бел |
| — | “Бацькава хата” | рук | | 1 арк | бел |
| Чэмер, Андрэй (Анішчык) | “Бацька” (“Асфальтавая дарога, якая бяжыць ад Навагрудка да Баранавіч...”) | | | 1 арк | бел |
| — | “Як на споведзі” | рук | | 1 арк | бел |
| — | Запісы на старонках літоўскага падручніка | рук, друк | | | рас |
| — | “Лжывыя міфы”, антысавецкі арт. | рук | | 2 арк | бел |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| — | “На новай бацькаўшчыне”, адрывак пра канадскую эміграцыю (пра Кіта?) | маш. | | 1 арк | бел |
| — | “II Усенародны кангрэс”, фрагм. | маш. | | 3 арк | бел |
| — | Фрагм. пра Аляксандра Орсу; тут жа арт. Васіля Плескача “Др. Аляксандар Орса” | маш., друк | | | бел |
| — | “Што думаюць пра нашу мову Ангельцы?”, фрагм. артыкула пра Сусьветны зьезд таварыства “Бацькаўшчына”; на др. баку вершы | рук, маш. | | 4 арк | бел |
| — | “Фінал” (“Многаслоўе падзеяў, падзеяў і здарэньняў змантавалі не малую кнігу...”) | маш. з пячаткай ТБК | | 1 арк | бел |
| Чэмер, А. (Анічшык) | “Праф. Эпімах-Шыпіла”, біяграфіч. спраўка | маш. з праўкамі | | 1 арк. | бел |
| — | “Homo-lupus” (“Як вядома, вельмі старыя людзі дзяцінеюць...”) | маш. | | 2 арк | бел |
| — | “Справа патрыятызму ці сумленьня?”, чарнавік | рук | | 1 арк | бел |
| — | Сшытак выпісаў і нарысаў (карычневы) | рук., выразкі | | 96 арк | бел |
| — | Сшытак выпісаў і нарысаў (з пейзажам) | рук., выразкі | | 96 арк | бел |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
| --- | --- | --- | --- | --- | --- |
| — | Сшытак выпісаў і нарысаў (з Чурлёнісам): зацемкі, выпісы з Сакрата Яновіча, копіі з Starożytna Polska за 1886 аб Навагр. павеце | рук | | 48 арк | бел, пол |
| — | Розныя аркушыкі | рук | | 5 арк | бел, рас |
| Чэмер, А. (Анічшык) | Старонкі машынапісаў | маш. | | 4 арк | бел |

## 4.4 Матэрыялы па Наваградзкай Гімназіі

| | | | | | |
| --- | --- | --- | --- | --- | --- |
| Анішчык Аляксей | Сшытак чарнавікоў і выпісаў пра Наваградзкую гімназію | рук | | 1 сш. | бел, пол |
| Анішчык Аляксей | “Наваградзкая Бел. Гімназія: адказы на пытаньні Алюнці (Аллы Орса)”, заўвага: «Да Успамінаў “Пазарасталі сьцежкі-дарожкі”» | копія з рук. з заўвагамі | | 2 арк | бел |
| — | Сьпісы экспанатаў пра Навагрaдак з калекцыі Нац. Музэю у Варшаве, адрасавана Анішчыку | маш., копія | | 10 арк (з дубл.) | пол |
| Сланеўскі, Ігнат Андрэевіч | З успамінаў. Пра школу ў Наваградку | маш. | | 1 арк | бел |
| Норык, Соф’я Мікалаеўна | Успаміны | маш. | | 1 арк | бел |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| Анціпенка, А. І. | Рэц. на кн. Анішчыка “Наваградская Бел. Гімназія”; тут жа рэц. на кнігу Анішчыка пра Барыса Кіта | копія з маш. | | 3 арк | бел |
| Кіт, Барыс | Рэц. на кн. Анішчыка “Наваградская Бел. Гімназія” | копія з рук. | 1992 | 1 арк | бел |

## 4.5 Вершы розных асобаў (у першую чаргу самога Анішчыка)

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Паўлоўскі, М. (Анішчык?) | “Здарэньне”; тут жа выразка з газэты з “Одой к радости” Шылера (па-расейску) | маш., друк | | 2 арк | бел., рас. |
| Сьцяпанаў, А. (Анішчык) | “І наша кроў лілася на Монтэ Касіно” | маш. (праз капірку) з заўвагамі Анішчыка | | 1 арк | бел |
| Чэмер А. (Анішчык) | “Вечарынка” (“Сыплюцца брыльянты-зоры...”) | маш. з заўвагамі | | 1 арк | бел |
| Чэмер А. (Анішчык) | “Ниёле” (“Наскучив сидеть на небесном престоле...”) | аўт. маш. з заўвагай “дубль” | | 1 арк | рас |
| — | “Дуб гігант упаў, памёр, Але многа ўспамінаў...” | маш. з заўвагамі | | 1 арк | бел |
| Анішчык | “Валентину в день юбилея” (“Согласно с законами вечными в мире Родился ребенок в далекой Сибири...”) | маш. з заўвагамі | | 1 арк | бел |
| — | Сшытак вершаў бяз аўтара | рук. | 1959–62 | 1 сш. | рас, бел |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| — | Сшытак вершаў (тж Анішчыка) і карцінак з прэсы | рук., друк | 1959–66 | 1 сш. (100 стр.) | рас, бел |
| — | Рукапіс вершаў (супадаюць з вершамі са сшытку): “Во избежанье клеветы боюсь с тобою встретиться...”, “Взглянули розы на тебя и зависть сушит их...”, “Я утром, днём или ночной порой...” “Наперакор інтрыгам злых людзей...” “Дзяўчынка! Любая! мой скарб адзінны!” | рук. | 1963 | 3 арк | рас, бел |
| Анішчык | Адцінкі з “Мондзінскай баллады” (?) | маш. з заўвагамі | | 4 арк | бел |
| Анічшык (?) | “Дарагой сястрыцы на ўспамін” (Верш пра Наваградак): “Алёнушка, любімая сястрыца, як часта спамінаю я цябе...” | рук. | | 1 арк | бел |
| Геніюш, Ларыса | “Мова мая” | рук. праз капірку | | 1 арк | бел |
| Амашукели, Реваз | “На кладбище мамелюков” | рук. праз капірку | | 1 арк | рас |
| — | “Ніколі” (“Над гонар і славу, над чары каханьня...”): “З уставу праграмы Хрысьціянскай Дэмакратычнай Злучанасьці Беларусаў” (Менск, 1920, стр. 20) | рук. праз капірку | | 1 арк | бел |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| Пярловіч, Самсон | “Зямля дзядоў маіх”, “Ясенін і ясень” (2 вершы з праўкамі Анішчыка) | рук. | | 1 арк | бел |
| — | Фрагм. паэмы (стр. 17, 19-21): “Заходзяць раз, я помню, тры асілкі — муляры, майстры...” | маш. з рук. ўст. | | 4 арк | бел |
| — | “Ці позна мы ўстаём, ці рана”, палітычны верш | рук. | 2000ыя? | 1 арк | бел |
| Буйло, Канстанцыя | “Люблю наш край, старонку гэту” (не рука Анішчыка) | рук. | | 1 арк | бел |
| — | “Ответ Есенина на евангелие Демьяна Бедного” (са зб. Тулейкі) | рук. | | 2 акр | бел |

## 4.6 Асабістыя дакументы Анішчыка

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Анішчык, Аляксей | Аўтабіяграфія (варыянты), газэтная выразка пра значэньні ймёнаў | маш. з рук уст., друк | 1995 | 39 арк | бел |
| Анішчык Аляксей | “Біяграфія Аляксея Анішчыка (Андрэя Чэмера)” | раздр. | | 2 арк | бел |
| — | Асабістыя дак. Анішчыка: характэрыстыкі, спраўкі, запрашэньні, пасьведчаньні ігд | маш., рук., друк | 1921–2002 | | рас, пол, ням, бел, літ |
| Анішчык Аляксей | Граматы, атэстат Познанскага ун-та | друк, рук | | | літ, пол |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| — | Характэрыстыкі й водгукі пра Анічшчыка, копіі даравальных надпісаў ад знакамітасьцяў | маш., копіі | 1944–90 | | бел, рас |
| Анішчык Аляксей | Дак. аб друку кніг Анішчыка (“Мондзінская балада”, “Партрэты”, “Сяргей Хмара”) | рук, друк | 2001–02 | | бел, літ |
| Анішчык Аляксей | Быт. паперы, візытоўкі, адрасы, запрашэньні, праграмкі | рук, друк | | 2 тэчкі | |
| Анішчык, Аляксей | Тэлефонныя кніжкі; тут жа сьпіс кантактаў беларусаў у Вільні | рук. | | 4 асоб., 1 арк | бел |
| Анішчык, Аляксей | Нататнік ці дзёньнік яго: апісаны пахавіны Галі Астроўскай, узг. Пётр Конюх | рук. (сш.) | 1994 | 1 асоб | бел |

## 4.7 Асабістыя дакуманты сваякоў Анішчыка

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| Зінкевіч, Ксаверы | Цесьць Анішчыка. Пасьведчаньне | друк з рук. ўст. | 1922, Полацк | 1 арк | |
| Зінкевіч, Ксаверы | Загад ветэрынару Зінкевічу ў сувязі з чумой | рук | 1922, Полацк | 1 арк | рас |
| Зінкевіч, Ксаверы | Удостоверение фельдшера | фота, рук, друк | 1918, Полацк | 1 арк | рас |
| Зінкевіч, Ксаверы | Фотаздымкі з подпісамі (“замардаваны бандытамі”) Анішчыка й дачкі | фота, рук | 1920, Полацк | 4 фота | пол, бел |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| Сівола, Сабіна | Фота з дакумантаў: Сиволо, Сабина (мэдычная сястра, цёшча Анішчыка), копія з кам. Анішчыка | рук | 1914 (?), Полацк | 2 асоб | рас |

## 4.8 Дакуманты арганізацый

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| — | Статуты Бел. таварыства зьняволеных і ссыльных у Літве: дакументы заснаваньня, пратакол | маш., рук | 1992–2002 | 34 арк. | бел., літ. |
| Шышэя, Кастусь | Членскі білет Бел. згуртаваньня палітвязьняў | друк з рук. ўст. | 1995-III-03, Вільня | 1 арк | бел |
| Анішчык: Аляксей | Асобнае пасьведчаньне чальца | друк | Вільня, 1993-III-25 | 1 арк | літ |
| Анішчык Аляксей | “Да гісторыі з дамкамі па вуліцы Жыгімонту (Зыгмунтоўскай) 12 ў Вільні”, арт. аб канфлікце вакол будынку ТБК ў Вільне. Ад імя Таварыства палітычных вязьняў і ссыльных. Узг. Марыяна Радзівіл, Хведар Нюнька | раздр. | 2009-VIII-08, Вільня | 6 арк | бел |
| Анішчык, Аляксей | Адкрыты ліст пра “подлага стукача” | маш. | | 1 арк | бел |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| Чернявский, Владислав | “Свидетельство...”, копія архіўнага сьведніцтва аб адабраньні бел. маёмасьці польскімі ўладамі з пячаткай Згуртаваньня палітычных вязьняў й подпісам Анічшыка | копія з маш. | 1991-IV-04, Вільня | 4 арк | рас |
| Анішчык Аляксей | Статуты грамадзкіх арганізацыяў, сьпіс арганізацыяў (ТБК, ТБШ і інш) | маш., копіі з маш. | 1988 | 11 акр | бел |

## 4.9 Карэспандэнцыя

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Анішчык Аляксей | Карэспандэнцыя да Анішчака; таксама прэса 1980–90; ліставаньне Анішчыка й Карузы аб рэабілітацыі | рук, друк, копіі, выразкі з газэтаў | | 4 тэчкі | бел, рас, пол |

### Лісты да Анішчыка: Карэспандэнцыя (разабраная)

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Абрамовіч, Уладзіслаў | | | | | |
| Аляшкевічы (Oleszkiewicz), Антаніна ды Мікалай | | рук | | | бел |
| Аніська, Аўген | | | | | |
| Анішчык, В. | | | | | |
| Апанасевіч, Валеры | | | | | |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| Атычыннікаў, Віталь | | | | | |
| Банайцiс, Валдас | | | | | |
| Барысаглебскі, Леанід | | | | | |
| Баяроўскі, М. | | | | | |
| Белямукі, Міхась ды Тамара | | | | | |
| Бітэль, Н. | | | | | |
| Вабішчэвіч, Аляксандр Мікалаевіч | | рук | Брэст | | бел |
| Верас, Зоська (Войцікава, Людвіка) | | рук | 1974, 1976, 1978, 1980, 1982, 1988 | 2 л. + 9 паштовак 11 арк | бел |
| Герасімовіч, Ніна | | | | | |
| Грыцкевіч, Анатоль | | | | | |
| Грыцкевіч, Валянцін | | | | | |
| Дроздза (Drożdza) | | | 1999 | | |
| Еднач, Зоя Міхайлаўна | Клюб “Спадчына” | рук | 1993-I-01 | 1 л.: 2 арк | бел |

| Аўтар | Тытул і тэмы | Тып | Гады й места | Колькасьць | Мова |
|---|---|---|---|---|---|
| Ермаловіч, М. | | рук | 1988-IV-04, Маладзечна | 1 л., 1 арк | бел |
| Караткевіч, Уладзімір | | рук., копія рук. | 1979-V-05 | 2 л.: 2 арк | бел |
| Касьцюшка, Леакадыя Іванаўна | | рук | | 1 арк | бел |
| Каханоўскі, Генадзь | | | | | |
| Кіт, Барыс | | | | | |
| Коўш, Сьвятлана | | | | | |
| Лаўрычонак, Пятро | | копія рук. | | 2 арк | |
| Лецка, Рыгор | | | | | |
| Лецка, Яўген | | | | | |
| Ліс, Арсень | | | | | |
| Літынская, Н.В. | | рук | 1982-I-01, Луга | паштоўка, 1 арк | рас |
| Лукашэвіч | | рук | 1991-V-05 | 1 л.: 1 арк | |
| Луцкевічы, Галіна ды Лявон | | рук | 1984–85, 1988 | 3 паштоўкі, 3 арк | бел |
| Лявон | | рук | Ліда | | |
| Марита и Зарета | | рук | 1991 | 2 л., 2 арк | рас |

